


Люцына Кубайчук і Валянцін Сельвесюк з Махнатага — лепшыя шахматысты на Гайнаўшчыне. Фота Я. Чэрнякевіч.

№ 15 (1183) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 13.IV.1980 г.

**Г. К. Андэрсен**

# МАЛЮТАЧКА

**(Пачатак у папярэдніх нумарах)**

А Малютачка маўчала, але калі крот і мыш адвярнуліся да птушкі плячыма, Малютачка нахілілася да ластаўкі і пацалавала яе проста ў закрытыя вочы.

„Можа, гэта тая самая ластаўка, што так цудоўна спявала летам?“ — падумала дзяўчынка. — Колькі радасці ты прынесла мне, мілая птушачка!“

Потым крот заткнуў дзірку ў столі і праводзіў старую мыш і Малютачку дадому.

Ноччу Малютачка не магла заснуць. Яна ўстала з ложка, спляла з сухіх былінак вялікі дыван, пайшла ў падземны ход і прыкрыла дыванам мёртвую птушачку. Потым Малютачка прынесла з мышынай норкі пушысты мяккі мох і зрабіла з яго пасцельку, каб мёртвай птушачцы было выгодна ляжаць.

— Бывай, мілая ластаўка! — сказала Малютачка. — Бывай!

І яна схіліла галоўку на грудзі птушачкі і раптам спалохалася: яна пачула, як у грудзях у ластаўкі нешта стукае. Гэта забілася сэрца ластаўкі — яна была не зусім мёртвая, а толькі акачанеўшая ад холаду. А цяпер яна нагрэлася і ажыла.

Малютачка дрыжэла ад страху — птушка ж была проста веліканам у параўнанні з такой крушынкай. Але ўсё-такі Малютачка сабралася з духам, мацней закутала ластаўку дыванікам, а потым пабегла, прынесла лісток мяты, якім сама накрывалася, і накрыла ім галаву птушкі.

На наступную ноч Малютачка зноў ціхенька пракралася да птушкі. Ластаўка ўжо зусім ажыла, але была яшчэ вельмі слабая і ледзь-ледзь адчыніла вочы, каб паглядзець на дзяўчынку.

— Дзякуй табе, мілая малютка! — сказала хворая ластаўка. — Я так добра нагрэлася! Хутка я зусім выздаравею і зноў палячу на сонейка.

— Ой, — сказала Малютачка, — цяпер так холадна, снег ідзе! Заставайся лепш у сваёй цёплай пасцелі, а я буду даглядаць цябе.

Малютачка прынесла ластаўцы вады ў пялёстку кветкі і некалькі ячменных зернетак. Ластаўка папіла, паела, а потым расказала дзяўчынцы, як яна параніла сабе крыло аб куст і не магла паляцець разам з іншымі ў вырай. Прыйшла зіма, зрабілася холадна, і яна ўпала на зямлю.

...Больш ластаўка ўжо нічога не памятала, і як трапіла сюды, у падзямелле, яна не ведала.

Усю зіму пражыла ластаўка ў падзямеллі, а Малютачка даглядала яе.

Ні крот, ні мыш нічога не ведалі аб гэтым — яны ж зусім не любілі птушак.

Калі надышла вясна і прыгрэла сонейка, Малютачка адчыніла дзірку, што зрабіў у столі крот, каб ластаўка магла паляцець.

Ластаўка спытала, ці не хоча дзяўчынка паляцець разам з ёй — няхай сядзе ёй на спіну, і яны паляцяць у зялёны лес. Але Малютачцы было шкада старой палявой мышы — яна ведала, што той будзе без яе вельмі сумна.

— Не, я не магу паляцець з та-

бою, — сказала яна ластаўцы.

— Бывай, бывай, мілая дзяўчынка! — зашчабятала ластаўка і паляцела на волю.

Малютачка паглядзела ёй услед, і слёзы закапалі ў яе з вачэй — вельмі палюбіла яна птушачку.

Малютачка засталася ў мышынай норцы. Цяпер ёй жылося вельмі дрэнна. Ёй зусім не дазвалялі выходзіць на сонейка, а поле вакол норкі палявой мышы зарасло высокімі тоўстымі каласамі і



здавалася Малютачцы густым лесам.

І вось аднойчы прыйшоў стары крот і пасватаўся да Малютачкі.

— Ну, цяпер табе можна рыхтаваць пасаг, — сказала старая мыш. — Выйдзеш замуж за важнага пана, і трэба, каб у цябе ўсяго было ў дастатку.

І Малютачцы давялося цэлымі днямі прасці пражу.

Старая мыш наняла чатырох павукоў, і яны ўдзень і ўначы сядзелі ў мышынай нары і ткалі розныя тканіны.

А тоўсты сляпы крот прыходзіў штовечар у госці і гаварыў аб тым, што хутка лета скончыцца, сонца перастане паліць зямлю і яна зноў будзе мяккай і пульхнай. Вось тады яны згуляюць вяселле. Але Малютачка ўсё сумавала і плакала: яна зусім не хацела выходзіць замуж за тоўстага крата.

Кожную раніцу, на ўзыходзе сонца, і кожны вечар, на захадзе, Малютачка выходзіла на парог мышынай норкі; часам вецер рассоўваў вярхі калосся, і ёй удавалася бачыць кавалачак блакітнага неба.

„Як відна, як хораша тут, на волі!“ — думала Малютачка і ўсё ўспамінала аб ластаўцы. Ёй вельмі хацелася б пабачыцца з птушкай, але ластаўкі нідзе не было відаць: мабыць, яна лётала там, далёка-далёка ў зялёным лесе.

І вось надышла восень. Пасаг Малютачкі быў гатовы.

— Праз чатыры тыдні твой шлюб! — сказала Малютачцы палявая мыш.

Але Малютачка заплакала і сказала, што не хоча выходзіць замуж за нуднага крата.

— Лухта! — сказала старая мыш. — Не ўпірайся, бо я ўкушу цябе сваім белым зубам. Чым табе крот не муж? У самой каралевы няма такога чорнага аксамітнага футра, як у яго. Ды і ў склепах у яго не пуста. Дзякуй богу за такога мужа!

Нарэшце надышоў дзень вяселля, і крот прыйшоў па нявесту. Цяпер Малютачцы давядзецца перасяліцца ў кратовую нару, жыць глыбока пад зямлёй, і яна ніколі не ўбачыць сонца: крот ніколі не дазволіць ёй выходзіць з нары.

дссвмы

Працяг у наступным нумары

**П. КЛІМУК, ДВОЙЧЫ ГЕРОЙ САВЕЦКАГА САЮЗА, ЛЁТЧЫК-КАСМАНАЎТ СССР.**

# У бязважкасці

(Урывак з кнігі „Зоры — побач“)

На зямлі я, напрыклад, магу заснуць у любы час, а ў космасе сяды-тады нават пасля велізарнай стомы адразу заснуць не ўдавалася. Намагаешся заснуць, а — не можаш, нейкія ўнутраныя імпульсы ўвесь час падтрымліваюць твой арганізм у напружанні. Гэты працэс самаўзбуджэння можа доўжыцца дзве-тры гадзіны, пакуль урэшце сон не зморыць цябе.

Цікавая і яшчэ адна з'ява, з якой мы сутыкнуліся ў космасе. Дастаткова заплюшчыць вочы пры выключаным асвятленні, як у іх — у вачах — раптам пачынаюцца нейкія вогненныя ўспышкі. Карціна аддалена нагадвае сабой своеасаблівы зоркапад. Прырода зыркіх успышак пакуль што вывучана недастаткова.

А калі ўжо гаварыць пра сон у космасе, дык варта адзначыць, што там мы не адчуваем ні матраца, ні падушкі. Мы, так сказаць, судакранаемся з імі, але яны на нас ніяк не ўздзейнічаюць — гэта значыць, мы не заўважаем, ці тая падушка мяккая, ці яна цвёрдая.

Спалі мы на „Салюце-4“ у мяшках, якія разам з намі прышпільваліся шырокай гумай да спальных месцаў на борце станцыі. Даволі не прывязацца да мяшка, як ты, варухнуўшыся ў сне, можаш выплыць з мяшка і будзеш спаць, плаваючы па кабіне, пакуль не стукнешся галавой альбо плячом аб што-небудзь.

Сняцца ў космасе і сны. Звычайна ў гэтыя сны прыходзіць не тое, што ты робіш там, чым жывеш на арбіце. Часцей сны чыста зямныя. Аднойчы, напрыклад, мне прыснілася, што разам з Ліляй і Мішкам збіраю ў лесе грыбы. Нават адчуваў іх пах. Віталію неяк прысніўся дождж. Ён нібыта і разбудзіў яго.

Што ж, такая ўжо, відаць, натура чалавечая. Сыну Зямлі, чалавеку, і там пастаянна, заўсёды хочацца чаго-небудзь зямнога.

Бязважкасць — гэта нечаканасці на кожным кроку, гэта самыя розныя цяжкасці, нязручнасці і перашкоды.

Каб што-небудзь зрабіць — напрыклад, паглядзець у ілюмінатар,



*Пётр Клімук з сынам Міхаськам.*

— трэба не толькі падплысці да яго, але і зафіксавацца, „замацавацьˮ сябе ў пэўным становішчы, бо іначай ты адплывеш ад яго з той жа хуткасцю, з якой прыплыў.

Альбо возьмем касмічны абед. Натуральна, што там мы нічога не варылі і не смажылі. Елі мы там кансерваваныя прадукты. Захоўваліся яны ў кантэйнерах-халадзільніках, падаграваліся ў электрападагравальніках.

Асартымент прадуктаў падбіраўся з улікам нашых густаў. Елі мы чатыры (часам — тры) разы на дзень. Ежа ў тубах (супы, пюрэ, кава) ужывалася ў падагрэтым выглядзе.

Хлеб для нас выпякаўся маленечкімі, з палову запалкавага карабка, буханачкамі і запакоўваўся ў цэлафан, быццам таблеткі. Дзеля чаго? А дзеля таго, каб можна было гэтую буханачку цалкам укінуць у рот і, пажаваўшы, праглынуць, бо хлебная крошка ў паветры — небяспека для дыхальных шляхоў. А запакоўваецца хлеб у цэлафанавы пакецік для таго, каб не псаваўся, — у такой упакоўцы ён захоўваецца свежым даволі працяглы час.

Памыцца раніцою, прыняць душ альбо ванну ў космасе нельга. Прынамсі, гэта звязана з вялікімі цяжкасцямі. Там у нас былі іншыя сродкі гігіены — маленькія і вялікія, зробленыя з антымікробнай марлі салфеткі, сухія і прапітаныя спецыяльным ласьёнам. Акрамя таго, былі ў нас сухія і ўвільготненыя ручнікі для праціранння цела, бялізна з матэрыялу, які валодае высокімі абсарбцыйнымі ўласцівасцямі да рознага бруду.

У бязважкасці вельмі хутка растуць валасы. Галіцца з гэтай прычыны нам даводзілася штодня. Іншы раз і не хацелася, але трэба было: амаль кожны вечар — тэлерэпартаж, а выходзіць на тэлекамеру непаголеным ніякавата.

А возьмем такое пытанне, як прыбіранне ў нашым касмічным доме. Венікам там смецце не падмяцеш і пыл зямным спосабам — пры дапамозе вільготнай анучкі — таксама не збярэш. Там усе гэтыя клопаты браў на сябе пыласос, а таксама супрацьпылавыя фільтры. Аднойчы ў часе генеральнага прыбірання (іх мы праводзілі штотыдзень) я паспрабаваў пакатацца на пыласосе — як баба-яга ў адным з дзіцячых мультфільмаў, але нічога з гэтага не выйшла: „рэактыўнайˮ цягі пыласоса на мяне не хапіла.

Усе адыходы і смецце мы складвалі ў цэлафанавыя мяшэчкі, а пасля ўпакоўвалі іх у металічныя кантэйнеры, якія нагадваюць сабой вялікае вядро са шчыльным вечкам. Праз шлюзавую камеру мы „выстрэльвваліˮ кантэйнерамі ў космас. Такі спосаб пазбаўлення ад смецця быў надзвычай зручны, дзякуючы яму ў нас на станцыі і ў транспартным караблі было заўсёды чыста. І ніколі не думалі, што аднойчы кантэйнер „пасмяеццаˮ з нас...

Недзе ў сярэдзіне ліпеня ўбачыў я на фоне чорнага неба — над дзённым гарызонтам — якісьці касмічны аб'ект. Яго зоркавая велічыня была большая, чым Сірыуса ці Венеры.

Я дакладна бачу — гэта штучны аб'ект, ён не круглай формы, а цыліндрычнай, а складаецца з двух дыскаў, злучаных паміж сабой.

Віталій, паназіраўшы за аб'ек-

⟶

←—

там, хапаецца за аловак і секундамер — спрабуе вылічыць яго арбіту.

— Віталій, мы ідзём побач з ім, у нас арбіты блізкія.

У часе сеанса мы паведамляем Зямлю пра невядомы аб'ект. Зямля таксама ў недаўменні. Перапытвае:

— Што за прадмет?

— Мы таксама не разумеем, — адказваю я. — Што гэта можа быць? Лятаючая талерка?

Заходзім у цень. Наш невядомы аб'ект знікае з поля зроку. А Віталій усё лічыць. Урэшце зноў выходзім на святло.

Гляджу ў ілюмінатар — зноў бачу прадмет. І ўжо не адзін, а — некалькі. Што такое? Не можа быць?! Сапраўды, дзіўных аб'ектаў ажно тры. Адзін свеціцца-міргціць ярка, другі — слабей, трэці — увогуле ледзь прыкметна. І раптам маланкай прыходзіць здагадка. Крычу Віталію:

— А ты ведаеш? Мне здаецца, што гэта нашы кантэйнеры з адыходамі. Паглядзі, іх ужо тры!

— Праўда, — гаворыць Віталій. — Канечне, кантэйнеры!

Што заставалася рабіць пасля гэтага? Адно — пасмяяцца ад душы разам з Зямлёй.





А. Вольскі

## МНЕ БЛАКІТНАЮ ЗДАСЦА ЗЯМЛЯ

Можа, мне давядзецца
на Марс паляцець.
Не пярэчу.
З адной толькі ўмовай:
каб назад на Зямлю
не спазніцца,
паспець
нам вярнуцца на мёд чабаровы.

Пэўна, я засумую сярод марсіян
на чужой і халоднай планеце
без духмянага водару нашых
палян,
што ўбіраюцца ў сінюю квецень.
Без густых чабароў,
без лясоў і бароў,
што ў спякоту даюць прахалоду,
супыняюць вятры ў непагоду,
а найбольш
без зямных незаменных сяброў,
з кім і радасць дзяліў і нягоду.

Пэўна, буду я часта дзівіцца здаля
на Зямлю —
без спачынку і стомы.
Мне блакітнаю здасца
з нябёсаў Зямля,
як гавораць сябры-астраномы.
Я ім веру, бо знаю:
штогод у бары
каля Мінска і Брэста
цвітуць чабары.

# У кожнай справе — першыя

Нядаўна ў гмінных школах закончыліся прадметныя алімпіяды. І тады ж аказалася, што ў Гайнаўскай гміне вельмі добрай паказала сябе школа ў Махнатым. Вучні гэтай школы занялі першыя і другія месцы ў гміне па польскай мове, матэматыцы, фізіцы, першае — па рускай мове, другое — па гісторыі. Славу найлепшай школы прынеслі Махнатаму Раіса Бобік, Валянцін Сельвесюк, Галіна Калішук, Люцына Кубайчук і іншыя.

Гледзячы на лепшых, і малодшыя вучні больш ахвотна працуюць, уключаюцца ва ўсе школьныя мерапрыемствы.

Усе вучні школы вывучаюць беларускую мову. Дзякуючы настаўнікам, у гэтай школе яшчэ не здарылася клопатаў з падручнікамі па беларускай мове. Ёсць усё, што патрэбна. А буквары — нават з запасам. Школа ўтрымлівае рэгулярны кантакт з беларускімі ліцэямі ў Гайнаўцы і Бельску. Многія дзеці з гэтай школы вучацца потым далей у гэтых ліцэях.

Школа ў Махнатым славіцца ў Гайнаўскай гміне і яшчэ адным. Яе вучні — гэта сталыя ўдзельнікі ўсіх шахматных турніраў. Люцына Кубайчук сярод дзяўчат, а Валянцін Сельвесюк сярод хлопцаў займаюць першыя месцы ў гміне і ў раёне.

Цікава працуюць у школе зухі і гарцэры. За добрую працу і дасягнутыя вынікі ў Першынстве зуховых дружын зухі з Махнатага атрымалі спецыяльны дыплом з Галоўнай Кватэры ЗГП з Варшавы. Апрача ўсіх планаваных гарцэрскіх і зуховых акцый, апрача здабывання спраўнасцей, дзеці вельмі рэгулярна і з сэрцам апякуюцца старэйшымі людзьмі вёскі. Зімой, напрыклад, калі ўсе сцежкі былі засыпаны снегам, малыя заўважылі, што да бабкі Параскевы Семянюк няма нават сцежкі да ганка хаты. Значыць, бабка не можа выйсці з хаты, відаць, моцна захварэла. Дзеці прыбеглі з лапатамі, расчысцілі ўваход, прынеслі дроў і вугалю, напалілі ў печы. І ад таго часу часта прыбягаюць да бабулі: то дроў напілілі, то сцежку расчысцілі, то і так пасядзелі, каб адзінокай бабулі весялей было.

Іншыя дзеці апекаваліся адзінокай і хворай бабуляй Марыяй Клімюк. Ёй дзяўчынкі таксама памагалі, як умелі. І падлогу вымылі, і дроў нанасілі і вады. Дзяўчынкі і хлапчукі самі прапанавалі ў школе зрабіць для старэйшых людзей тое ці іншае, і толькі дапільнаваць, хто і куды пойдзе, каб апека была рэгулярнай, было справай настаўніцы Зінаіды Сельвесюк.

Вельмі слаўны стаў ужо ў школе гурток спрытных рук. Але аб ім прачытаеце ў наступным нумары.

**Яніна Чэрнякевіч**




## ШКОЛА МАЛЯВАННЯ

*Навучыся маляваць пеўніка. Намалюй на лістку чыстай паперы прыгожага пеўніка, расфарбуй яго і прышлі ў „Зорку“. За найпрыгажэйшы малюнак — кніжка.*

**Адрас рэдакцыі „Зорка“, 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.**